

WARREN ELLIS • DARICK ROBERTSON • KEITH AIKEN
SUGGESTED FOR MATURE READERS
HELIX
DC COMICS
2 • OCT 97
$2.50 US
$3.50 CAN
★ ★ ★ ★ LATE EDITION ★ ★ ★ ★
TRANSMETROPOLITAN
COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ
ТРАНСМЕТРАПАЛІТЭН #2
ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: COMICSBY
COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY
COMICSKRAMA.BY
VK.COM/COMICSKRAMA
NEW!
DIRECT SALES


ТРЫЦЦАЦЬ ПЯЦЬ ДОЛАРАЎ? А МІНЕТ ЗААДНО НЯ ЗРОБІШ?
ДОБРА, ДОБРА.
TAXI
ROTTENBERG TAXi
Я НАЛАДЗІЎ АКУЛЯРЫ НА ФОТА-ЗДЫМКУ.
РАЁН ЭЙНДЖАЛС-8 ПАДРЫХТАВАЎСЯ ДА АБЛОГІ.
DIRTY RAIN
CFC
ЗДАРОВА. Я ШУКАЮ ФРЭДА ХРЫСТА. ПЕРАДАЙ ЯМУ, ШТО СПАЙДАР ЕРУСАЛІМ ЖАДАЕ ПАГУТАРЫЦЬ З ІМ.
АДВАЛІ. «БУЛЬК»
FUCK YOU
РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ СВЯДОМАСЦЬ АЖНО ТРАШЧЫЦЬ У ПАВЕТРЫ, ТАК?


АДВАЛІ.
ТАК... У ДОСЦІПЕ МНЕ З ТАБОЙ НЕ ЦЯГАЦЦА. АЛЕ ПЕРШ ЧЫМ ПАКІНУЦЬ ЦЯБЕ, ЖАДАЮ ШТОСЬЦІ ТАБЕ ПАКАЗАЦЬ.
ЧАГО?
ААААА
СЛУХАЙ ТЫ, ГАК ГАРЭЛЫ, МЫ ТУТ НЕ Ў ЦАЦКІ ГУЛЯЕМ.
ВОСЬ Я, УСЯГО ТОЛЬКІ МІРНЫ РЭ-ПАРЦЁР, І – БАЧЫШ? – Я ЗАХАПІЎ ВАШУ ЎБОГУЮ БАРЫКАДУ.
КОПЫ ВОСЬ-ВОСЬ НАЛЯЦЯЦЬ, У ШТУР-МАВОЙ АМУНІЦЫІ, ЗАЎВАЖ, І ТВАЁ МІЗЭРНАЕ МАЛЕНЬ-КАЕ «АДВАЛІ» НЕ НАПУЖАЕ ІХ.


ПАМЯТАЙ, ГЭТА Я ЯШЧЭ ПА-ДОБРАМУ.
А КАЛІ Б НА МАІМ МЕСЦЫ БЫЎ КОП, ТЫ Б ЗАРАЗ КУЛЮ З ВОКА ВЫКАЛУПЛІВАЎ.
КАЛІ ВІЛЬНЮС НАС ПРЫЗНАЕ, МЫ ТАКІХ ЯК ТЫ ПУБЛІЧНА СПАЛЬВАЦЬ БУДЗЕМ!
НУ КАЛІ Ў ГЭТЫ ДЗЕНЬ АГНЯМЁТ БУДЗЕ Ў ЦЯБЕ, ТО ШАНЦЫ МАЕ – ПЯЦЬДЗЯСЯТ НА ПЯЦЬДЗЯСЯТ, ТАК?
НЕБАРАКА ФРЭД. КАЛІ ВА ЎСЁЙ ЯГО ТРАНСІЯНСКАЙ ТУСОЎКІ МАЗГІ ЯК У НАСПІДАВАННЫХ КУРАНЯТ, ТО ГЭТА ЗАДУМА СПРАДВЕЧНА АСУДЖАНА НА ПРАВАЛ.
МАБЫЦЬ, ГЭТА Ў ІХ ЗАРАЗ ТАКІ ЭТАП РАЗВІЦЦЯ, КАЛІ ЛОБНЫЯ ДОЛІ МОЗГУ СПЯКАЮЦЦА Ў ЛАЙНО.
ТАКОЕ ПАЧУЦЦЁ, ШТО МОЙ СЛУПОК ПРА ГЭТУЮ БЯЗГЛУЗДНУЮ РЭВАЛЮЦЫЮ БУДЗЕ ПАДОБНЫ НА ПАМІНАЛЬНАЕ СЛОВА.

# Уніз на дно


ANGELS
8
SWIFT
WARREN ELLIS writes & DARICK ROBERTSON pencils
down the dip
KEITH AIKEN, inker
NATHAN EYRING, color and separations CLEM ROBINS, letterer
JULIE ROTTENBERG, associate editor STUART MOORE, EDITOR
special thanks to MICHAEL O'BRIEN
TRANSMETROPOLITAN created by WARREN ELLIS and DARICK ROBERTSON


НЕВЕРАГОДНАЯ НАПРУГА: БЫЦЦАМ ДАЖЫВАЮЦЬ АПОШНЮЮ СЕКУНДУ, ПАКУЛЬ КУЛЯ ЯШЧЭ ЛЯЦІЦЬ.
ЯНЫ ЧАКАЮЦЬ НЕМІНУЧАЙ ГІБЕЛІ.
УСІХ НЕТРАНСІЯНТАЎ З РАЁНА СПРАВОДЗІЛІ, ГЭТА ЦАЛКАМ ВЫЯЎНА.
МОЖА ЗДАРЫЦЦА, ШТО Я АДЗІНЫ ЦЫВІЛ НА КВАДРАТНУЮ МІЛЮ.
ПРАБАЧЦЕ... НЕ, НЕ, НЕ ТУРБУЙЦЕСЯ, БЛІЖЭЙ НЕ ПАДЫДУ...
Я ШУКАЮ ФРЭДА ХРЫСТА. Я НЕ СТУКАЧ І НЯ КОП, Я ЯГО СТАРЫ СЯБРА, ЖУРНАЛІСТ.


ДОБРА, СЫХОДЖУ.
АЛЕ Я ТАБЕ ВОСЬ ШТО СКАЖУ: КАЛІ Я НЕ ЗНАЙДУ ФРЭДА ДА ТАГО, ЯК УЦІХАМІРНІКІ ЗМЯТУЦЬ ВАШЫ БАРЫКАДЫ, ЗАЎТРА ГЭТЫ ХАРОШЫ МАЛЫШ БУДЗЕ ВАЛЯЦЦА Ў ЛУЖЫНЕ ТВАЁЙ КРЫВІ.
БЕЗ ВАРЫЯНТАЎ.
БАР НА КУЦЕ З КРЭНБЕРЫ, У ПАЎМІЛІ АДСЮЛЬ. У ФРЭДА ТАМ ШТАБ.
КАЛІ ЗНОЙДЗЕШ, СКАЖЫ ЯМУ, ШТО ГЭТА ДЗІЦЁ ТАК-САМА АД ЯГО.
НУ ВОСЬ ЯКОГА ЛЯСУ-НА, ФРЭД?
ЖАДАЎ БЫ ПАЗБЕГНУЦЬ ПРАБЛЕМ – ПЯРДОЛІЎСЯ Б У ДУПУ.


ЗРАЗУМЕЛА. **НАДЗЕЛЕНЫ ЎЛАДАЙ,** ТАК? З КІМ ТРАПІЛА І РАЗМАЎЛЯЦЬ НЕ СТАНЕЦЕ, ВЫ Ж ЦЯПЕР **ЗА ГАЛОЎНЫХ,** ТАК?
НУ, КАЛІ ТАК...
ААУУФФ!
ХХЕЕЕХХГГГХх
ЛІЧЫШ, **ПРАФЕСІЯНАЛ ГАРМАТЫ** СПАЛОХАЕЦЦА? ЦІ ТАК?
ВОХ, ЯК ЖА ВЫ МЯНЕ ПРЫВОДЗІЦЕ Ў ШАЛЕНСТВА! ТАК І ВЫЛЕГЧАЎ БЫ ЎСЮ ВАШУ ПЛОЙМУ!
ХААААХ


Я НЕ АБАВЯЗАНЫ ЦАЦКАЦЦА З УСЯЛЯКІМ НУДНЫМ ЛАЙНОМ!
Я ЖУРНАЛІСТ!
ФРЭДА ХРЫСТА МНЕ. ХУТКА.
STUMP
ШТО ЗА ХАЛЕРА ТУТ У ВАС?
НАРОД, Я Ж СКАЗАЎ, ДЛЯ АГУЛЬНАЙ КАРЫСЦІ ВЕЛЬМІ ВАРТА, КАБ КОЖНЫЯ ШЭСЦЬ ГАДЗІН, НЕ РАДЗЕЙ, У МЯНЕ БЫЎ СЕКС, І КАБ НАС НЕ ТУРБАВАЛІ...
ФРЭД.
РАД СУСТРЭЧЫ. Я ЎЖО ЗАПОРХАЎСЯ ЦЯБЕ ШУКАЦЬ.
ПАЗНАЕШ?


СПАЙДАР ЕРУСАЛІМ?
ФРЭД, СКАЖЫ СВАЁЙ ДРЭНІ, КАБ ЛЯЖАЛІ СПАКОЙНА. А ТО Я СТОМЛЕНЫ І ЎВЕСЬ НА НЕРВАХ, І Я, **САПРАЎДЫ**, ЗУСІМ НЯ СУПРАЦЬ КАГО-НЕБУДЗЬ ГРУКНУЦЬ.
ХЛОПЦЫ, **ХЛОПЦЫ**. РАБІЦЕ, ЯК КАЖА МОЙ СЯБРУК, УСЁ ДОБРА. СПАЙДАР – **ВЯДОМЫ ПІСЬМЕННІК**.
СПАЙДАР, СПАЙДАР... ЦІ ДАЎНО ГЭТА БЫЛО? ПЯЦЬ ГАДОЎ ПРАЙШЛО?
ТЫ ТАДЫ ЯШЧЭ КІРАВАЎ СПРАВАМІ Ў РОЗНЫХ СУПОЛКАХ. ПРАЦЯГВАЕШ ЗАБІВАЦЦА, КАБ ЦЯБЕ CFC АДПРЭЧЫЛІ?
ЗНАЙШЛІСЯ БОЛЬШ ВАЖНЫЯ СПРАВЫ. ЯК Я РАЗУМЕЮ, ТЫ ТУТ З-ЗА АДКОЛУ.
ШТОСЬЦІ НАКШТАЛТ ГЭТАГА. НУ ДЫК ШТО, Я МАГУ РАЗЛІЧВАЦЬ НА ІНТЭРВ'Ю?
У ПАМЯЦЬ ПРА БЫЛЫЯ ЧАСЫ? ЧАМУ НЕ. РАНЕЙ ТЫ ЗАЎСЁДЫ АБАРАНЯЎ МАЁ ДОБРАЕ ІМЯ.
МНЕ Б ТОЛЬКІ ЗНАЙСЦІ ТУТ БОЛЬШ СПАКОЙНАЕ МЕСЦА... І ВЫПІЎКУ - СТЫМУЛЯТАРЫ ЗАПІЦЬ.
САМО САБОЮ, САМО САБОЮ. БАЧЫШ, СПАЙДАР, САМА НАША ІСТА ЁСЦЬ БУНТ, ТАКІМ ЧЫНАМ...
PRIV
... НУ І ВОСЬ, УСЕ МЫ ПРАХОДЗІМ ПРАЦЭС СТАНАЎЛЕННЯ, МЫ ГЕНЕТЫЧНАЯ КУКАЛКА, ЯКАЯ...
...О, ПАЧАКАЙКА... ХЛОПЦЫ...МАБЫЦЬ ПРАВЯДЗЕЦЕ ДЗЯЎЧЫНКУ? НАМ ПАТРЭБНЫ ПАКОЙ...


ДЫК ЯК ГЭТА ЎСЁ ПАЧАЛОСЯ? МНЕ ТРАНСІЯЦЫЯ Ў НАВІНУ.
САМ КАЖЫ, З ЧАГО ПАЧЫНАЦЬ. ЧУЖЫНЦЫ АТАБАРЫЛІСЯ Ў СТАРЫМ ВІЛЬНЮСЕ ЎЖО ЯК ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ ТАМУ...
идет запись......
РАСКАЖЫ ПРА ЗМЕНУ ЦЕЛА.
ЧУЖЫНЦАМ ГАНДЛЯВАЦЬ АСАБЛІВА НЯМА ЧЫМ. У СУСВЕТНАЙ КУЛЬТУРЫ ЦІКАВАСЦЬ ДА ІХ НАВІЗНЫ СКАНАЎ ЗА ДВА ГАДЫ.
КАЛІ ВЯРНУЛАСЯ МОДА НА МАДЫФІКАЦЫЮ ЦЕЛА І СТАЛІ ДАСТУПНЫЯ ПЕРШЫЯ ТЭМПІНГАВЫЯ ТЭХНАЛОГІІ...
НАГАДАЙ, ШТО ЗА ТЭМПІНГ.
У ТОЙ ЧАС У БРАЗІЛІІ ГЭТА БЫЎ САМЫ ШЫК. ЧАСОВАЕ МОРФАГЕННАЕ ЎМЯШАННЕ. АБЗАВОДІШСЯ НА ТРЫ ТЫДНІ ЛУСКОЙ РЭПТЫЛІІ ЦІ МЕСЯЦ ХОДЗІШ У ПЁРАХ.
ПЕРШАЯ ЛАГІЧНАЯ ДРОБНАЯ ХАДА ДА НЕЗВАРОТНАЙ ЗМЕНЫ СВАЁЙ ПРЫРОДЫ. ВОСЬ ТОЛЬКІ ШТО ТАБЕ ЗА КАРЫСЦЬ АД ПЕРАТВАРЭННЯ Ў КАМОДСКАГА ВАРАНА?
МНЕ – ВЯЛІКАЯ КАРЫСЦЬ. АЛЕ ГЭТА НЯВАЖНА.
НЯВАЖНА. ЧУЖЫНЦЫ ВЫСТАВІЛІ НА ПРОДАЖ СВОЙ ГЕННЫ МАТЭРЫЯЛ, НА ПАТРЭБУ ТЭМПЕРАМ.
РАЗ І НАЗАЎСЁДЫ СТАЦЬ ЖЫВЁЛАЙ – ГЭТА БЫЎ ТУХЛЫ НУМАР... А СТАЦЬ ПРАДСТАЎНІКОМ ІНШАЙ РАЗУМНАЙ ГУМАНОІДНАЙ РАСЫ? ВОСЬ ТУТ ІХ ЛЯСНУЛА.
АДКУЛЬ УЗЯЛАСЯ СЛОВА «ТРАНСІЯНТ»? ЧАМУ ВЫ НЯ ТЭМПЕРЫ?
ТЭМПЕРЫ – ГЭТА ТРАНСІЯНТЫ НА ВЫХАДНЫЯ ДНІ. ЯНЫ СКАРЫСТОЎВАЮЦЬ НОВЫЯ ЦЕЛЫ ЦІ ОРГАНЫ ЎСПРЫМАННЯ. МЫ Ж ЛІТАРАЛЬНА ЗНАХОДЗІМСЯ ПАМІЖ ДВУХ ЦЕЛ.


АТРЫМЛІВАЕЦЦА, ДЗЕЛЯ ВЫЖЫВАННЯ ЧУЖЫНЦЫ ГАТОВЫ ПРАДАВАЦЬ СВОЙ ГЕННЫ МАТЭРЫЯЛ КОЖНАМУ СУСТРЭЧНАМУ ЗБАЧЭНЦУ?
У ЧЫМ ЖА КАНРЭТНА ПЕРАВАГА ПЕРАТВАРЭННЯ ДАВОЛІ ЗДАВАЛЬНЯЮЧАГА ЧАЛАВЕЧАГА ЦЕЛА Ў ІНШАПЛАНЕТНАЕ?
МЫ ПАКУЛЬ НЕ РАЗАБРАЛІСЯ. ТРАНСІЯЦЫЯ ПРАЦЯКАЕ ВЕЛЬМІ ПАВОЛЬНА... НІВОДНЫ ТРАНСІЯНТ У ЭЙНДЖАЛС-8 ЯШЧЭ НЯ СКОНЧЫЎ ПРАЦЭС.
ЗНАЧЫЦЬ, ПАКУЛЬ АБЛОМ.
ЖУДАСНА.
ІДЗІ ТЫ ДА...
НУ ДЫК РАСТЛУМАЧ МНЕ. ВЫ ПАТРАБУЕЦЕ АД ГАРАДСКОЙ УЛАДЫ НЕЙКІХ ТАМ ПАТУРАННЯЎ... А З ЯКОЙ НАГОДЫ ІМ ПРАГІНАЦЦА ПЕРАД КУПКАЙ МІЗЭРНЫХ АХВЯР МОДЫ?
НАС НЕ БЯРУЦЬ НА **ПРАЦУ**. ЧАМУ, ЯК ТЫ ЛІЧЫШ, БОЛЬШАСЦЬ З НАС ЖЫВЕ Ў ЭЙНДЖАЛС-8? ГРОШ НАМ ЦАНА, ЧАГО НЯ СКАЖАШ ПРА **ПЛАТУ ЗА ЖЫЛЛЁ**.
ГЭТА САМАЯ ВЯЛІКАЯ **ТРУШЧОБА** Ў ГОРАДЗЕ. ЯНЫ ЛІЧАЦЬ, ШТО **ТУТ** НАША МЕСЦА.
А ШТО ТЫ ТУТ ЗАБЫЎСЯ? ТЫ ШЭСЦЬ ГАДОЎ ПРАЖЫЎ НА **АРЭХАВЫМ УЗГОРКУ**. ДЫК ТАМ ЦЯПЕР ПАЛОВА ДЗЕТАК НА ЦЯБЕ ПАДОБНА...
СВЕЖАЯ РАЛЛЯ, ТАК, ФРЭД?
ВЕДАЕШ, А МНЕ ПАДАБАЕЦЦА: **ФРЭД ХРЫСТОС, МЕСІЯ МІЖПЛАНЕТНАГА КАХАННЯ**.
Я ЛІЧЫЎ, ГЭТА БУДЗЕ **СЯБРОЎСКАЕ** ІНТЭРВ'Ю...
ЯНО МАГЛО ТАКІМ БЫЦЬ, КАЛІ Б НА КОЖНЫМ КРОКУ ПА ДАРОЗЕ СЮДЫ Я НЕ НАСКАКВАЎ НА МАЗДАНАЎ, ЯКІЯ ЛЯСНУЛІСЯ АД УЛАСНАЙ **ВЫДУМАНАЙ УЛАДЫ**!


КАЛІ Б ПА ДАРОЗЕ СЮДЫ Я НЕ ЎБАЧЫЎ СКОЛЬКІ ЗАПУЖАНЫХ ЗАБІТЫХ ЛЮДЗЕЙ!
КАЛІ Б НЕ ЎБАЧЫЎ ЦЯБЕ, КАГО ЎЗНОСІЦЬ ЛЮДСКАЯ МАСА!
КАЛІ Б НЕ СУСТРЭЎ АДНУ НЯШЧАСНУЮ СУЧКУ З ТВАІМ ДЗІЦЁМ НА РУКАХ, ЗДУРНЕЛУЮ АД КРЫЎДЫ І СТРАХУ...
ДЫ ЗАБІ ЗЯПУ! ТЫ Ж НА ПЯЦЬ ГАДОЎ З ГОРАДА З'ЯБАЎ, ТАК?
У СЭНСЕ, ШТО ТУТ У НАС? БЫЦЦАМ МАЙСЕЙ СЫШОЎ З ГАРЫ, ЯГО ШЫЛА Ў ДУПЕ ГОНІЦЬ РАСПАВЕСЦІ НАМ, ШТО ТУТ ДЫ ЯК?
Я БАЧУ, ШТО ТУТ ДЫ ЯК! ІМ ТРЭБА ЕЖА, ГРОШЫ І МЕСЦА ПАД СОНЦАМ!
А ВЕДАЕШ, ШТО ІМ ДАСТАЕЦЦА? ЧАЛАВЕЧАЕ ЛАЙНО ЗАМЕСТ ЕЖЫ, ПАДРАНЫЯ КУПОНЫ ЗАМЕСТ ГРОШАЙ, А ЯШЧЭ ЯНЫ ВЫМУШАНЫ ЖЫЦЬ ТУТ!
ВОСЬ І АДЧАПІСЯ АД ІХ. Я САМ СТАНУ ДЛЯ ІХ ШЫЛАМ У ДУПЕ!
ПАГРОЗА АДКОЛУ ПРЫМУСІЦЬ АДНОСІЦЦА ДА НАС З РАЗУМЕННЕМ.
ТЫ КРЫВАДУШНЫ ПРЫТЫРАК, ФРЭД.
УСЁ АДРЭПЕТАВАЎ.
А ПАКУЛЬ ШТО?
МЫ АДМОВІЛІСЯ АД ТЫХ КАМУНАЛЬНЫХ ПАСЛУГ, У ЯКІХ НЯ МАЕМ ПАТРЭБУ. ДЗВЕ ГАДЗІНЫ ТАМУ МЫ ПЕРАКРЫЛІ ВАДУ І ГАЗ.


МЫ... ПРЫЎЛАШЧЫЛІ НЕКАЛЬКІ ЗБІРАЛЬНІКАЎ І ПЕРАНАЛАДЗІЛІ РАЁН-НУЮ СЕТКУ ЭЛЕКТРАЗАБЕСПЯЧЭННЯ. ЯНЫ НЯ ЗМОГУЦЬ АДКЛЮЧЫЦЬ ЯЕ, КАЛІ НЕ ЗБІРАЮЦЦА ЎГРОБІЦЬ ГЕНЕРАТАР.
...І ТЫМ СА-МЫМ ПАЗБАВІЦЬ ЭНЕРГІІ ДЗЕСЬЦІ ЧАТЫРЫ СУСЕДНІХ РАЁНА. А НАВО-ШТА ЗБІРАЛЬНІКІ?
АМАЛЬ ПАЛОВА НАШЫХ УЖО НЕ ЗАСВОЙВАЕ ЛЮДСКУЮ ЖРАТВУ. МЫ ПЕРААРЫЕНТАВАЛІ ЗБІРАЛЬНІКІ НА РАЦЫЁН ЧУЖЫНЦАЎ. ТАКІМ ЧЫ-НАМ МЫ ГЕНЕРЫРУЕМ УЛАСНУЮ ЕЖУ.
ЯНЫ Ж **ДА-БЯРУЦЦА** ДА ЦЯБЕ.
У ГЭТЫМ ГОДЗЕ ВЫБА-РЫ, І ПРАЦЯГВАЦЬ БУДУЦЬ ПРЭЗІДЭНТА-ЗАКОННІКА. ФРЭД, ЯНЫ ПРЫЙДУЦЬ І ПАСКАЧУЦЬ НА ВАШЫХ КОСТКАХ.
ДЫ НЯ ЗМО-ГУЦЬ ЯНЫ. ДАСТАТКОВЫХ ПАДСТАЎ У ІХ НЯМА.
А КАЛІ ЗНОЙДУЦЬ?
ЗМЯНШАЙ ТОН, СКАНЧ-ВАЙ З ПАЛКІМІ ГАВОРКАМІ, НАЦЯГВАЙ УСЕ СВАЕ МАСКІ. РОЗНІЦЫ ЎЖО НІЯКАЙ.
КАЛІ ЯНЫ ЖА-ДАЮЦЬ ЦЯБЕ ПРЫСТРУНІЦЬ, ЗНАЧЫЦЬ БЫЦЬ ТАБЕ АДПЯР-ДОЛЕННЫМ.
SNAPT


ФРЭД ПАКАЗАЎ МНЕ БЛІЖЭЙШЫ ВЫХАД, ПРАМА З КРЭБЕРЫ НА НІКСАН.
ПРОСТЫХ ЛЮДЗЕЙ ЯНЫ АДСЮЛЬ НЕ ПАВЫГАНЯЛІ, ТАМУ І ВАРТУ НА БАРЫКАДЫ ПАДАБРАЛІ З ТЫХ, ХТО БОЛЬШ СТРЫМАНЫ.
АЛЕ ВОСЬ ГЭТА ЗУСІМ НЕ ПРАЯЎЛЕННЕ ТАЛЕРАНТНАСЦІ.
АДВАКАТЫ. ІХ ЗАЎСЁДЫ ЛЁГКА ПАЗНАЦЬ ПА АД-ЦЯГНУТЫХ КІШЭНЯХ.
NO ONE UNDER 17 ALLOWED
АДВАКАТЫ ЗАЎСЁДЫ ЦЯ-ГАЮЦЬ З САБОЙ ДУР. СТРЭЛКІ ШТАНОЎ МЯТЫЯ.
ВА ЎСЯЛЯКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ, ВЯЛІКАЙ ЦІ МАЛЕНЬКАЙ, ЗНОЙДУЦЬ СЛАБАЕ ЗВЯНО. І КАЛІ КАРАЦЕЙ...
ГЭТА **ЛЮДЗІ**.
ЯКОЙ БЫ НІ БЫЛА ГРАНДЫЁЗ-НАЙ ІДЭЯ, ЯКАЯ АБ'ЯДНАЛА ІХ, ЛЮДЗІ ЗАСТАНУЦЦА НІКЧЭМНЫМІ, НЯДУЖЫМІ, ПРАГНЫМІ І БАЯЗЛІВЫМІ.
ТАКІЯ І НІШЧАЦЬ УСЯЛЯКУЮ РЭ-ВАЛЮЦЫЮ.


ТАБЛЕТКІ АДПУСКАЮЦЬ, СА СВІТАННЕМ ПРЫХОДЗЯЦЬ ДРЫЖЫКІ І ЛАМОТА АД ПРАЗМЕРНАГА ПЕРАТАМЛЕННЯ.
OPEN
TAXI
O'BRIEN PIES!
ANGELS 8 PL
SPYDER
CITY
СТАН ПРЫГНЕЧАНЫ. НЯ ТОЙ ГАЛОЎКАЙ ФРЭД РАЗВАЖАЕ, А Ў ПАЛОВЕ ВЫПАДКАЎ І ЗУСІМ – ДУПАЙ.
ГАРАДСКАЯ ЎЛАДА ЗАВЯДЗЕ СТАРЫ ДОБРЫ КАРАГОД І ХУТКА ЎПЛАВІЦЬ ЯМУ МАЗГІ.
КХ–ХЕ
ПШ–Ш
РРРРРРР
РРРРРРР



БОЖА, ТЫ Б СЯБЕ БАЧЫЛА.
ТЫ З ТЫХ КОШАК-ГЕНАМУТАНТАЎ, ЯКІЯ, ЯК Я ЧУЎ, ЖРУЦЬ ГЕКОНАЎ?
А ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО ТЫ СТРАШЭННА **АГІДНАЯ**?
ФШШШ!
КХА
ПАРАДА НА БУДУЧЫНЮ: КОШКІ БЫВАЮЦЬ КУДЫ СТРАШЭННЕЙ, КАЛІ НЕ ЗНАХОДЗЯЦЦА НА ПАРОЗЕ ГАЛОДНАЙ СМЕРЦІ.
ПАЙШЛІ, ЗАБОЙЦА. ПАШУКАЕМ ТАБЕ ШТО-НЕБУДЗЬ ПАЕСЦІ.
А ПОТЫМ, МАГЧЫМА, ЗАСАДЗІМ ЦЯБЕ НЕНАДОЎГА Ў ПРАЛЬНУЮ МАШЫНУ.
ТАКАЯ ДАРОСЛАЯ ДАМА, МАГЛА Б І ПАСЦЕРАГЧЫСЯ БАДЗЯЦЦА ПА НЕЗНАЁМЫХ КВАРТАЛАХ.
ШТО ТАКСАМА ПРАВІЛЬНА ДЛЯ ШМАТ ЗНАЁМЫХ МНЕ ДАМ...


ДОБРАЙ РАНІЦЫ, ДО-ОБРАЙ РАНІЦЫ... ЯШЧЭ АДЗІН ХАРОШЫ ДЗЯНЁК...
ТЭЛЕБАЧАННЕ, ТЫ СКОРМЛІВАЕШ **СОРАК ДЗЕВЯТАЕ** ТОК-ШОУ ЗА РАНІЦУ. КАГО ТРЭБА ЗАБІЦЬ, КАБ УБАЧЫЦЬ **НАВІНЫ**?
CRAP
КРУГЛАСУТАЧНА – ЗВОДКА НАВІН З ІНФАРМАЦЫЙНЫХ САЙТАЎ SPRF, ПУЛЬС ПЛАНЕТЫ...
ШТО ЗА ГУК... ТЭЛЕФОН?
ТЭЛЕФОН ЖА НЯ ДЗЕЙНІЧАЕ.
КУДЫ Я ЯГО ДЗЕЎ?
NEWSFEED
ВЯДУЧАЯ ДЗІЦЯЧАЙ РУБРЫКІ ДЖААН КЭТЭЛ ЗНОЙДЗЕНА ЗАБІТАЙ. ПРЫЛАДАЙ ЗАБОЙСТВА ПАСЛУЖЫЎ ПЛАСТЫКАВЫ ШПРЫЦ «МОЙ МАЛЕНЬКІ СТАРЧАК»... БАЦЬКОЎСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ ВЫКАЗВАЮЦЬ ШПАРКАЕ ЎХВАЛЕННЕ...


ТУТ? НЕ, НУ Я ПАМЯТАЮ, ШТО БЫЎ ЗЛЫ, І ТЭЛЕФОН МЯНЕ **ВАР'ЯВАЎ**...
АЛЕ КАБ У **ВАННУЮ** ЯГО ЗАКІНУЦЬ?
АГА!
ДОБРА ЯШЧЭ, ШТО У МЯНЕ АД СТЫМУЛЯТАРАЎ **ЗАПОР**...
ЕРУСАЛІМ СЛУХАЕ.
ДЗЕ МОЙ ДРАНЫ СЛУПОК?
ПРЫВІТАННІ, РОЙС. ЯК ЦУДНА З ТВАЙГО БОКУ НАЛАДЗІЦЬ ТЭЛЕФОН.
Я НІЧОГА НЕ «НАЛАДЖВАЎ». Я КАНТРАЛЮЮ ТВАЮ ЛІНІЮ. ТРЫМАЮ ЯЕ АДКЛЮЧАНАЙ, ПАКУЛЬ САМ НЕ ПАЖАДАЮ З ТАБОЙ ПАГУТАРЫЦЬ.
ПОДЛЫ ТЫ ЛАЙНА МЯШОК, БЕЗ ТЭЛЕФОНА Я ПРАЦАВАЦЬ НЕ МАГУ...
А З ТЭЛЕФОНАМ ТЫ НЕБЯСПЕЧНЫ. ПАМЯТАЕШ, ШТО ТЫ **НАРАБІЎ У ПРАЗЕ**, ЗАСТАЎШЫСЯ ЛЯ ТЭЛЕФОНА БЕЗ НАГЛЯДУ. ПАМЯТАЕШ, КОЛЬКІ **НАРОДУ ЗАГІНУЛА**?
ДЗЕ МОЙ СЛУПОК?
HOLD NO STRESS



Я ЎЗЯЎ ІНТЭРВ'Ю Ў ФРЭДА ХРЫСТА, ЗАРАЗ ДАВОДЖУ ДА РОЗУМУ.
СПАЙДАР, НАЗАВІ МНЕ ХОЦЬ КАГО-НЕБУДЗЬ НА ГЭТАЙ ДЗЕЎБАНАЙ ПЛАНЕЦЕ, ХТО ЯШЧЭ НЯ БРАЎ ІНТЭРВ'Ю Ў ФРЭДА ХРЫСТА?
ГЭТЫ ВЫБЛЯДАК ЗА ПАЎДНЯ НАМАЛОЦІЦЬ ЯЗЫКОМ СТОЛЬКІ, ШТО НА ПЯЦЬСОТ ТЭЛЕВЯДУЧЫХ ХОПІЦЬ.
ЁН МОЙ СТАРЫ СЯБРУК. ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ ЁН ЗБАЛБАТНУЎ ТАКОЕ, ЧАГО НІХТО ІНШЫ АД ЯГО НЕ ДАМОГСЯ.
БОЖАЧКІ, ТЫ ШТО ХОЧАШ СЦАЦЬ? **ТАМ** І НЕ СПРАБУЙ...
ТВАЁ ШЧАСЦЕ, КАЛІ ТАК. ЧОРТ, **МАЁ** ШЧАСЦЕ, КАЛІ ТАК. КАЛІ ЗМОЖАШ ПАКАЗАЦЬ?
НУ, КАЛІ АРГАНІЗУЕШ МНЕ ДОСТУП ДА СЕТКІ НАВІН, Я ЗМАГУ СКІДВАЦЬ УСЁ СА СВАЁЙ МАШЫНКІ ПРАМА ТАБЕ Ў РЭДАКЦЫЮ...
ПАТРЫВАЙ, Я СКАЖУ КАЛІ...
УВАЙДЗІ З ГОСЦЕВАГА АКАЎНТА І ПАКІНЬ ПАВЕДАМЛЕННЕ НА МАЁ ІМЯ.
ДЫК Я ЎБАЧУ МАТЭРЫЯЛ? СПАЙДАР, **АБАЗНАЧ ТЭРМІН**!
ДЫ ЎЖО НЕЎЗАБАВЕ. ПАЧАКАЙ-КА, ТЫ ЗНІКАЕШ...
ВОСЬ ЦЯПЕР ДАВАЙ. ТВОЙ ВЫХАД.
**СПАЙДАР?** ШТО ЗА **ШУМ**? -СКККЗ-
НЯ ЧУЮ -ТЗЗТ- ЦЯБЕ... ТЫ ШТО ТАМ РОБІШ, ТЫ, ХРР ТЗЗЗ ТЫ БРУДНЫ ПРАЙДЗІСВЕТ... -ТЗТ-
Я ПАТРАБУЮ ГЭТЫ СЛУПОК ФРЗТ - Я ЯГО ЖЫЎЦОМ З ТВАІХ МАЗГОЎ ВЫДЗЯРУ СКРЖЧ... ВОЙ, ДЫ Ў ПЕКЛА.
ПСТРЫК



УСЁ ДА ЧОРТУ ВЫЙШЛА З-ПАД КАНТРОЛЮ...
... ПРЫКЛАДНА ТРЫ ХВІЛІНЫ ТАМУ НА КУЦЕ КРЭНБЕРЫ І ГЕЙН, ХТОСЬЦІ КІНУЎ ЗАПАЛЬНУЮ БОМБУ...
... ЖУДАСНЫЯ ПЕРАШКОДЫ. Я СПРАБУЮ НАЛАДЗІЦЬ... ВІДАВОЧНА, ВЫБУХОВАЯ ПРЫЛАДА БЫЛА КІНУТА ГРУПАЙ ТРАНСІЯНТАЎ...
АХ ТЫ БРЫДКАЯ, АГІДНАЯ РАСПУСНІЦА. ЯК **ЖУДАСНА** ТЫ СЯБЕ ПАВОДЗІШ.
ПРАЦЯГВАЙ У ТЫМ ЖА ДУХУ.
ПЕРАДАЮ СЛОВА НАШАМУ КАРЭСПАНДЭНТУ НА ЎСКРАІНЕ ЭЙНДЖАЛС-8...
ТЫ НАЕЛАСЯ? ПАТРЫВАЕШ ПАКУЛЬ?
ДОБРА.
МУРРР.
...ПАЛІЦЫЮ ЎЖО АПАВЯСЦІЛІ, Я ТОЛЬКІ ШТО ЧУЎ, ЯК ХТОСЬЦІ ПАТЭЛЕФАНАВАЎ...
...ВОХ. О, НЕ.
ІДУЦЬ...


КОПАМ ДАЛІ ПАДСТАВУ.
ДА ЗАХОДУ СОНЦА Ў ЖЫВЫХ НЕ ЗАСТАНЕЦЦА НІВОДНАГА ТРАНСІЯНТА.
ХУТКА Ў ЭЙНДЖАЛС-8. НЕ, Я НЯ МЕЮ ЎЯЎЛЕННЯ, НАВОШТА, ЦІ ШТО БУДУ РАБІЦЬ, КАЛІ ДАБЯРУСЯ.
АДНО ЗРАЗУМЕЛА: МАЁ МЕСЦА ЗАРАЗ ТАМ.
УСЯГО ТОЛЬКІ СУТКІ Ў ГОРАДЗЕ – І Я ЎЖО РАЗ-ЗЛАВАНЫ ГОРШ, ЧЫМ БЯЗРОДНЫ ВЫБЛЯДАК НА СВЯЦЕ БАЦЬКАЎ...
КАНЕЦ УЖО БЛІЗКА